ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 39 (138) 20 - 26 кастрычніка 1995 г. Кошт 600 рублёў

АДНОЙЧЫ СХЛУСІЎШАМУ... - ст. 3.

ГАРАДЗЕНСКАЯ ДАЎНІНА - ст. 4.

КАНЕЦ КУПАЛАЎСКАЙ УЯВЫ НАЦЫІ - ст. 5.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ВІНШУЕМ!

**Доўгі час маладым навукоўцам Гарадзеншчыны прыходзілася абараняць свае працы ў Менску, Маскве, Санкт-Пецярбургу і г.д.**

**Сітуацыя зьмянілася са стварэньнем у Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я.Купалы ўласнага Савету па абароне кандыдацкіх дысертацый, які ўзначаліў доктар юрыдычных навук сп. Мікалай Сільчанка.**

10 кастрычніка ва ўніверсітэце пасьпяхова прайшла абарона першых двух кандыдацкіх дысертацый - сп. Віктара Леванца і Вячаслава Шабанава. Віншуем!

**В.А.**

## ЛЕНІНСКІ КАМСАМОЛ ВЫПРАБОЎВАЕ ГАРАДЗЕНСКІЯ СТОЙКІ

**На маскоўскім аўтазаводзе імя Ленінскага камсамолу зараз праходзяць выпрабаваньні пярэднія стойкі для аўтамабіляў «Масквіч», вырабленыя на гарадзенскім заводзе аўтаагрэгатаў.**

У выпадку станоўчага зыходу выпрабаваньняў у Горадні хутчэй за ўсё будзе наладжаны выпуск гэтых дэталяў (кошт адной перавышае 400 тысяч рублёў). Магчыма, што адначасова з гэтым будзе спынены выпуск дзіцячых ровараў, са збытам якіх ёсьць праблемы.

Цікава, чым тады будуць выдаваць зарплату?

**В.ДРЭМА.**

## КБМ РАСПАЧАЎ ПРОДАЖ СВАІХ АКЦЫЙ

Створанае 21 чэрвеня акцыянернае таварыства "Камбінат будаўнічых матэрыялаў", статутны фонд якога на гэты момант складае 7 мільярдаў 944 мільёны рублёў, на гэтым тыдні распачало продаж сваіх акцый на чэкі «Маёмасьць». Намінальны кошт адной акцыі - 50 тысячаў рублёў. У вольны продаж плануецца пусьціць каля паловы выдадзеных каштоўных папер.

**В.М.**

## ХВОРЫХ ЯЗВАЙ СТАНЕ МЕНШ?

**Сёньня ў Гарадзенскім мединстытуце скончае сваю працу адзінаццаты зьезд хірургаў Беларусі, на якім таксама прысутнічалі прадстаўнікі Польшчы і Расеі.**

Асноўнай тэмай сёлетняга форуму сталі пытаньні ўдасканаленьня аказаньня хірургічнай дапамогі пры язьвенай хваробе. Паралельна ў будынку гэтай навучальнай установы дзейнічаюць і дзьве выставы - «Усё для здароўя-95» і «Новыя тэхналогіі ў хірургіі», удзел у якіх прынялі больш за 30 вядомых беларускіх і замежных фірмаў.

## ПАДАРУНКІ З МІНДЭНА

**У адзінаццаты раз за апошнія гады з горада-пабраціма Міндэна ў Горадню на гэтым тыдні быў дастаўлены груз гуманітарнай дапамогі: медыцынскае абсталяваньне, медыкаменты, вопратка, дзіцячыя цацкі і г.д.**

З гэтай нагоды 17 кастрычніка адбылася сустрэча прадстаўнікоў розных грамадзкіх і дзяржаўных установ Міндэна, якія прывезьлі дапамогу, з уладамі Горадні.

На сустрэчы госьці цікавіліся, як і каму будзе разьмяркоўвацца дапамога, як улады вырашаюць постчарнобыльскія праблемы. У прыватнасьці, цікавіла міндэнцаў магчымасьць пераабсталяваньня пад дзіцячыя санаторыі будынкаў у пакінутых расейскімі вайскоўцамі гарадках.

Агульнае ўражаньне ад сустрэчы: у гуманітарнай дапамозе жыхарам Гарадзеншчыны, відаць, больш зацікаўленыя немцы, а не мясцовыя ўлады. Бо ў чарговы раз транспарт з дапамогай шмат часу прастаяў на мяжы. Вялікія праблемы існуюць і з гуманітарнай дапамогай на адрас дабрачынных арганізацый, якія існуюць у горадзе. Дапрыкладу, «Карытас» доўгі час ня мог растаможыць атрыманы для дабрачынных мэтаў грузавы аўтамабіль.

**Р.ВІКТАРОВІЧ.**

## КУДЫ ІДУЦЬ НАШЫЯ ГРОШЫ

**Прэзідэнт Лукашэнка захапіў дзяржаўны бюджэт Рэспублікі Беларусь. Канстытуцыйны суд прызнаў гэты захоп незаконным. Фактычна атрымліваецца, што Лукашэнка скраў усе дзяржаўныя грошы. Давайце паглядзім, куды ён іх траціць.**

За 7 месяцаў на адукацыю, ахову здароўя, культуру выдаткавана 29-35% гадавой нормы, хаця павінна было быць выдаткавана 60%. Затое на сістэму ўлады за гэты ж час выдаткавана 95% гадавой нормы. Прэзідэнт пабудаваў сабе самалёт за 45 мільёнаў доляраў (517 мільярдаў рублёў). Гэта пры нашай агульнай нястачы. А вось прэзідэнты такіх, скажам мякка, нябедных краінаў, як Францыя і Германія, ня маюць уласных самалётаў.

Прэзідэнт Лукашэнка пасьля Садама Хусейна самы «бясьпечны» прэзідэнт у сьвеце. У яго ахове ўжо 1500 чалавек. Рыштунак гэтай аховы каштуе мільёны доляраў. Кожны дзень на ахову трацiцца 40 000 доляраў. Але гэтага мала. У Менск сьпешна перакідваецца славутая Віцебская паветрана-дэсантная дывізія і таксама для аховы Прэзідэнта.

Цікава, каго ж так баіцца ўсенароднаабраны?

Яраслаў **ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ПАЗЬНЯК БУДЗЕ БАЛАТАВАЦЦА Ў ЛІДЗЕ?

**17 кастрычніка Ліду наведаў старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянон Пазьняк, старшыня выбарчай камісіі БНФ Лявон Баршчэўскі, старшыня камісіі БНФ па адукацыі, доктар філалогіі Іван Саверчанка і адказны сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык.**

Адбылася сустрэча з актывам лідскай арганізацыі БНФ, разгледжана магчымасьць вылучэньня Зянона Пазьняка кандыдатам Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па Лідскай Чырвонаармейскай выбарчай акрузе N 133. Неабходныя 500 подпісаў для вылучэньня ўжо сабраныя, але мы маем зьвесткі, што ёсьць акругі, дзе за Зянона Пазьняка ўжо сабрана па некалькі тысяч подпісаў.

У плане вывучэньня сітуацыі ў сістэме адукацыі г.Ліды і Лідскага раёну адбыліся сустрэчы Зянона Пазьняка і Івана Саверчанкі з кіраўніцтвам аддзелаў адукацыі горада і раёну. Зянон Пазьняк адзначыў становішча з адукацыяй у Лідзе, як ня самае горшае, але русіфікацыя часткі лідзкіх школаў бярэцца пад пільную ўвагу камісіі па адукацыі БНФ «Адраджэньне» і старшыні Фронту.

Не засталіся па-за ўвагай старшыні Фронту і бяспраўныя дзеяньні шэрагу чыноўнікаў уладных структур, якія ствараюць рэзкія перашкоды, каб не дапусьціць удзелу кандыдатаў ад БНФ у выбарах.

Вацлаў **СЯРПІНСКІ.**

## БАЛЬ ЧЫРВОНЫХ ЦМОКАЎ

**Каля 15 мільёнаў рублёў выдаткавана з абласнога бюджэту на сьвяткаваньне ў Горадні ўгодкаў «Великого Октября».**

Лепшыя рамонтныя сілы кінуты на добраўпарадкаваньне пляцу вакол помніка правадыру сусьветнага пралетарыяту. Культурныя ўстановы горада абавязаны наладзіць урачысты пышны канцэрт. Цэнтральная дзея разгорнецца 4 лістапада ў абласным драмтэатры. Нічога, што многія састарэлыя, нямоглыя людзі своечасова не атрымаюць пеньсію. Галоўная задача нашай дзяржавы - «ублажыць» ветэранаў-чэкістаў, адстаўных штабнікоў і рознага кшталту «чырвоных» камісараў. Шкада толькі, што ня будзе нікога з галівудзкіх рэжысёраў - ёсьць цудоўная магчымасьць зьняць неблагі працяг славутых «Злавесных мерцьвякоў».

Рыгор **ВОСТРАШАБЕЛЬСКІ.**

## ДЭПАСТАТ ДЛЯ ЦЁТКІ МАНІ

**У Прэзідэнцкай канцыляріі падрыхтаваны чарговы ўказ. На гэты раз «бацька» ( а мо «айчым»?) «паклапаціўся пра хворых. Згодна з гэтым указам бальнічныя аркушы зараз будуць аплочвацца ня больш чым на 45% ад сярэднямесячнай зарплаты. (Раней пры пэўным стажы можна было атрымоўваць і 100%).**

Але гэта яшчэ ня ўсё. Выплата па бальнічных ня можа перавышаць тры мінімальныя зарплаты. Гэта значыць, калі чалавек месяц хварэў, то ён ня можа атрымаць больш 180 тысяч рублёў.

А зараз зазірнем у гарадзенскую аптэку N 131, што насупраць чыгуначнага вакзалу. Што можа дазволіць сабе чалавек? Асьпірын па 800 рублёў ды валідол па 1510. А калі хвароба іншая? Пачак эрытраміцыну каштуе 19 000, леваміцэціну - 9 800, ношпы - 83 700 рублёў. А калі хвароба зусім іншая і патрэбны сьпецыяльныя лекі? У суседняй аптэцы, напрыклад, Дэ-Нол каштуе 195 000 рублёў, Перміксон -233 650, дэпастат - 358 950 рублёў. Што можна парадзіць цётцы Мані, хіба што зьвяртацца да «айчыма», каб ён адказаў, як за 180 000 той пачак дэпастату купіць.

Вацлаў **СЯРПІНСКІ.**

## САМАКІРАВАНЬНЕ: КІРАВАЦЬ САМОМУ ЦІ САМІМ?




**Пытаньне рэфармаваньня мясцовага самакіраваньня ў нашым грамадстве разумеецца сёньня па-рознаму. Прачытаўшы ўважліва ўказ прэзідэнта аб скасаваньні ў гарадах раённых Саветаў, нявольна прыходзіш да думкі, што кіраўнік дзяржавы, відаць, разумее слова «самакіраваньне» у сэньсе «самому кіраваць». Усім і ўсімі, зразумела. Між тым, знаходзяцца «вольнадумцы», якія разумеюць гэтую праблему па-іншаму.**

На пачатку кастрычніка 1995 года ў Віцебску праходзіў аднадзённы семінар «Мясцовае самакіраваньне. Шляхі рэформ», які ў нейкай ступені спрабаваў адказаць на вострыя пытаньні, якія паўсталі перад нашым грамадзтвам па гэтай праблеме. У семінары, арганізаваным Беларускім Рэспубліканскім Фондам Падтрымкі Дэмакратычных Рэформ імя Л.Сапегі, прынялі ўдзел прадстаўнікі Балгарыі, Беларусі, Латвіі, Нямеччыны і Расеі.

Обер-бургамістр Франкфурта-на-Одэры Вольфганг Поль расказаў прысутным пра вопыт перабудовы сацыялістычнага гарадзкога Савету ў сучасную сістэму мясцовага самакіраваньня на прыкладзе свайго горада, дарэчы, - трывалага партнёра Віцебска. Цікава, што выбаршчыкі ў Нямеччыне маюць тры галасы, якія могуць быць аддадзены як за аднаго кандыдата ў бургамістры ці ў парламант, так і за прадстаўнікоў розных партый.

Сп.Поль разам са сьпецыяльным упаўнаважаным па пытаньнях міжнароднага супрацоўніцтва гарадзкога Савету таго ж горада сп.Бальдаўфам перадалі таксама гуманітарную дапамогу Віцебску.

Кандыдат эканамічных навук, намесьнік генеральнага дырэктара Нацыянальнага Цэнтру па тэрытарыяльнаму разьвіцьцю і жыльлёвай палітыцы Балгарыі Гінка Чавдарава растлумачыла новы закон аб мясцовым самакіраваньні сваёй краіны, у якім, між іншым, прадугледжана адказнасьць мэра горада за невыкананьне сваіх службовых абавязкаў. Па словах сп.Чавдаравай, зараз недобрасумленных мэраў могуць зьняць з пасады дэпутата мясцовага Савету большасьцю з 2/3 галасоў ці мясцовы рэферэндум па гэтым пытаньні. Дарэчы, нашым нямецкім сябрам увогуле было незразумела, як гэта мэр можа, напрыклад, не хадзіць на працу?! Але прысутныя з постсацыялістычных краін гэтай акалічнасьці не зьдзівіліся, абчым заўважыў у сваёй прамове Анатоль Крывенчанка, загадчык камісіі па самакіраваньні Заканадаўчага Сходу г.Санкт-Пецярбургу. Ён азнаёміў з новым прагрэсіўным законам аб мясцовым самакіраваньні, прынятым нядаўна ў Расеі.

І зараз перад нашай усходняй суседкай паўстала пытаньне ўжо на практыцы рэалізаваць закон, рэфармаваць мясцовае самакіраваньне законным шляхам, а не як у нас - недапрацаванымі «указамі».

Свае прамовы па рэфармаваньні сістэмы мясцовай улады прадставілі і эксперты Фонду імя Льва Сапегі. На жаль, сярод удзельнікаў канферэнцыі было няшмат прадстаўнікоў дзеючых структур мясцовай улады, хаця канферэнцыя павінна была прыцягнуць іх увагу. Відаць, большасьці нашых дэпутатаў даспадобы сёньня выконваць любыя «указы», а не забіваць «сьветлыя» галовы рознымі там «праблемамі».

**С.СЬМІРНОЎ.**

Сёньня, 20 кастрычніка, у Навагрудку пройдзе навуковая канферэнцыя «Прававыя аспекты разьвіцьця малых гарадоў. Традыцыі, сучаснасьць, перспектывы», прысьвечаная 950-м угодкам Навагрудка. Ладзіць канферэнцыю Фонд імя Л.Сапегі. Для ўдзелу ў ёй запрошаныя навуковыя супрацоўнікі Акадэміі навук Беларусі, дэпутаты і сьпецыялісты мясцовых органаў улады. На канферэнцыі будуць узьнятыя наступныя пытаньні: гістарычныя і эканамічныя асаблівасьці разьвіцьця малых гарадоў і мястэчак Беларусі; магдэбургскае права як спрыяльны фактар разьвіцьця гарадоў у сярэднявеччы; прававыя і эканамічныя прычыны заняпаду малых гарадоў і мястэчак Беларусі; рэформа самакіраваньня як шлях да сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця малых гарадоў і мястэчак; заканадаўчыя аспекты і перспектывы працэсу рэфармаваньня мясцовых органаў улады ў Беларусі ды інш.

Вітаўт **РУДНІК.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК НЯ ВЫЛУЧАНЫ СОЙМАМ ПАРТЫІ БНФ КАНДЫДАТАМ У ДЭПУТАТЫ ВС РБ

**14 кастрычніка ў Менску прайшоў Сойм Партыі БНФ, які разгледзеў пытаньне аб вылучэньні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь.**

Народны Фронт ідзе на выбары пад двума лозунгамі: "Галасуем за Беларусь" і "Свабодная Беларусь - гэта Беларусь без прэзідэнта". Вылучаны кандыдаты па 65 выбарчых акругах з 141. Па большасьці з гэтых акругаў узгоднены пазіцыі з іншымі дэмакратычнымі партыямі, каб не дапусьціць распыленьня сілаў.

Разам з тым па шмат якіх акругах не ўдалося пазьбегнуць сутыкненьня дэмакратычных кандыдатаў. Найбольшыя рознагалосьсі ў дэмакратычны альянс уносіць Партыя Народнай Згоды, якую ўзначальвае прадстаўнік службы кантролю прэзідэнта спадар Сечка. Гэтая партыя выставіла кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савету ледзь не палову свайго наяўнага складу і заняла 41 акругу.

Старшыня Партыі БНФ Зянон Пазьняк папрасіў Сойм не вылучаць яго кандыдатуру ні па адной з акруг. Тым ня менш, гэта не азначае, што Пазьняк канчаткова вырашыў ня ўдзельнічаць у выбарах.

Справа ў тым, што ў чатырох акругах Беларусі ідзе збор подпісаў за вылучэньне кандыдатам у дэпутаты ВС рэспублікі лідара БНФ З.Пазьняка, і, магчыма, ён дасьць згоду на вылучэньне па адной з гэтых акруг.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ЗАЯВА СОЙМУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

У краіне працягваюцца грубыя парушэньні з боку выканаўчай улады існуючых сёньня законаў. Паставіўшы пад жорсткі кантроль дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, прэзідэнцкія структуры павялічваюць наступ на незалежныя выданьні - адзіныя крыніцы аб'ектыўнай інфармацыі. На гэты раз гвалту падвергліся газеты «Народная воля», «Белорусская деловая газета» і «Имя», якіх пазбавілі магчымасьці друкаваць свае выданьні. Парушана адно з найважнейшых правоў чалавека - права атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю. Гэтая антызаконная акцыя яшчэ раз падкрэсьліла аўтарытарны характар рэжыму, існуючага сёньня ў нашай краіне.

Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» рашуча пратэстуе супраць парушэньня выканаўчымі ўладамі Закона аб друку і патрабуе спыненьня палітыкі ўсёдазволенасьці і гвалту. Выказваем сваю салідарнасьць з намаганьнямі сумленных журналістаў ва ўмовах аўтарытарызму данесьці да грамадства рознабаковую праўдзівую інфармацыю.

14 кастрычніка 1995 г., Менск.

## НЕЗАЛЕЖНЫЯ ГАЗЕТЫ ДРУКУЮЦЦА ЗА МЯЖОЙ

**Як ужо паведамлялася, на мінулым тыдні друкарні «Беларускі Дом друку» і «Сож» адмовілі ў паліграфічных паслугах газетам «Народная воля», «Белорусская деловая газета» і «Имя».**

Тым ня менш, чарговы нумар «Белорусской деловой газеты» выйшаў па графіку 16 кастрычніка. Ён быў надрукаваны ў Віленскай друкарні «Летувос Рытас». Чакаецца, што без зрываў будзе выходзіць і штотыднёвік «Имя». Пакуль пэўныя цяжкасьці з паліграфічнай базай мае «Народная воля», але рэдакцыя разьлічвае вырашыць праблему на працягу тыдня.

**СІМ**

## ЦЭНЗАРСКІЯ НАЖНІЦЫ

**Як вядома, нядаўна прыпынена выданьне трох газет, якія вельмі ж надакучвалі ўладам: «Имя», «Белорусская деловая газета» і «Народная воля».**

Лукашэнка ў час прэзідэнцкай кампаніі добра зьведаў па сабе, што такое інфармацыйная аблога і аднабаковая падача інфармацыі. Аднак неўзабаве ён зразумеў, якая гэта выніковая зброя ў палітычных гульнях і сам «узброіўся да зубоў». А напачатку сёй-той з журналістаў нават паверыў абяцанкам прэзідэнта, які на сваёй першай прэс-канферэнцыі паведаміў, што яны з гэтай хвіліны могуць адчуваць сябе свабоднымі. Дзіўна было ўжо тое, што прадстаўнікоў mass media абвяшчаў незалежнымі «добры дзядзька», а не Закон. Але ў нас тады на гэта ніхто не зьвярнуў увагу.

Засвоіўшы, што хто мацнейшы, той і мае рацыю, Лукашэнка пачаў дыктаваць mass media ўласныя правілы гульні, на кожным кроку ўціскаючы журналістаў. Факты агульнавядомыя. Апроч канкрэтных акцый з яго боку перыядычна чуюцца пагрозы накшталт таго, што ўлады будуць актыўна ўмешвацца ў дзейнасьць mass media, а МУС і КДБ - надалей пільна сачыць за сітуацыяй у сферы журналістыкі. Ну чым не які-небудзь Андропаў! Прэзідэнт мог проста ў тэлестудыі ўчыніць допыт запрошаным журналістам, высьвятляючы, хто з іх і як ставіцца да яго. Адказы, зразумела, чуліся выключна станоўчыя. Карацей, яму ўдаецца прымусіць сьпяваць дыфірамбы большасьць журналістаў. Але гэтага Лукашэнку ўжо замала, яму абавязкова хочацца, каб паслухмянымі сталі ўсе пагалоўна. Яму патрэбна, як таму Хрушчову, надзейныя «прыводныя рамяні» сваёй, поўнай выкрутасаў, палітыкі. А сапраўды, сваёй эксцэнтрычнасьцю і канфрантаваньнем з Захадам Лукашэнка вельмі падобны да Мікіты Сяргеевіча, які ня толькі журналістам указваў што пісаць, але таксама пісьменьнікам і мастакам. Затое Рыгоравіч ужо даў указаньне гісторыкам...

Паўтары месяцы таму ў сваім опусе, адрасаваным рэдактарам газет, прэзідэнт іх папярэдзіў, што іхняя песенька ўжо прапяяна, калі яны толькі будуць зьмяшчаць «неаб'ектыўную» інфармацыю, г.зн. не такую, якую хочацца яму. Дзіўны на роздум месяц, Лукашэнка з тэлеэкрана нядаўна паведаміў, што «лимит времени исчерпан» - для журналістаў, якім «и вовсе может быть не следовало писать», паколькі ім усяго па 22,24,25 гадоў... Цікава, у якім законе адзначана з якога ўзросту журналісты могуць друкавацца? Я пра такі ня ведаю. Значыцца, Аляксандру Рыгоравічу проста не падабаецца тое, што яны небагата маюць гадоў. Але ж ён сам сярод кандыдатаў на прэзідэнта быў самым маладзейшым і нічога - сяк-так, але спраўляецца з абавязкамі.

Пару гадоў таму мне давялося гутарыць з адным польскім журналістам. Калі ён пачуў, што ў нас усё яшчэ існуе цэнзура (цэнзары паранейшаму ходзяць на працу, толькі кантора іхняя крыху інакш называецца), дык не раздумваючы назваў гэта газетнай сенсацыяй. Нас жа асабліва не зьдзівіла, што няма СССР, Беларусь як быццам незалежная, закон не дапускае цэнзуры ў mass media, а яна як існавала, так і існуе дагэтуль, толькі паслабўшы свае «абцугі». Вось толькі цяпер за цэнзарскія нажніцы ўзяўся ўжо сам прэзідэнт. Хіба няма яму больш да чаго прыкласьці рукі?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ.**

## ЕВАНГЕЛЬЛЕ АД ЗАМЯТАЛІНА

**Дэмакратычныя сілы Беларусі чакалі-гадалі, што прыдумае прэзідэнт і яго атачэньне перад паўторнымі выбарамі, каб зноў перашкодзіць непажаданым для цяперашняга рэжыму кандыдатам у дэпутаты прайсьці ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы.**

І дачакаліся.

Пазбавіць грамадзян уплыву вольнадумнай прэсы - так можна ахарактарызаваць патрабаваньні галоўнага ўпраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта, выкладзеныя ва ўрадавай тэлеграме, накіраванай на адрас старшынь аблвыканкамаў.

Небезьвядомы таварыш Замяталін узяў прыклад са свайго патрона, які бярэ ва ўласныя рукі ўсё большую ношу, імкнецца быць затычкай у кожнай дзірцы. Цяпер задумана, каб усе дагаворы дзяржаўных друкарняў з недзяржаўнымі выданьнямі павінны заключацца пасьля ўзгадненьня з галоўным цэнзарам Беларусі - таварышам Замяталіным. Ён і толькі ён будзе вырашаць, што чытаць беларускаму грамадзяніну, а што не. Вынікі прадбачыць няцяжка.

Найбольш уважлівы чытач прыгадае словы прэзідэнта, якія публічна лепсь сказаў: "З цяперашняга дня даю журналістам свабоду". Можна спаслацца на дэмакратычную Канстытуцыю Беларусі. Закон аб друку, які прадугледжвае спрэчныя пытаньні вырашаць толькі праз суд. Словы застаюцца словамі, а справы навідавоку.

Праўда, суцяшае тое, што ношка, узятая таварышам Замяталіным на свае кволыя плечы, можа прывесьці да таго, што цэнзар надарвецца. Закон фізікі: чым больш уціск, тым большае і супрацьдзеяньне.

**Ул.ПРАЎДЗІН.**

## ПЕРАДВЫБАРЧЫ БЛОК «САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНЫ САЮЗ» ЗАЦЬВЕРДЗІЎ СЬПІС КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ

**16 кастрычніка адбылася прэс-канферэнцыя Сацыял-дэмакратычнага Саюзу (СДС), на якой былі паведамлены вынікі вылучэньня кандыдатаў на другі тур парламанцкіх выбараў ад СДС. Ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ) вылучана 30 кандыдатаў, ад Партыі Народнай Згоды (ПНЗ) - 41 кандыдат, ад партыі Агульнабеларускага адзінства і згоды - 12. Усяго ад СДС вылучаецца 83 кандыдаты.**

Лідар партыі Агульнабеларускага адзінства і згоды Дзьмітры Булахаў паведаміў, што сваю кандыдатуру на выбары ён не выстаўляе, матывуючы гэты крок тым, што «ў жахлівых умовах, калі адна галіна ўлады зьядае другую, калі метадычна і мэтанакіравана зьнішчаецца парасткі парламанцкай дэмакратыі, я лічу, што дэмакратыя ў Беларусі першасная, а кандыдатура Булахава - другасная. Палітычны капітал Булахава трэба выкарыстаць для таго, каб правесьці ў новы парламант максімальную колькасьць прадстаўнікоў СДС». Каментуючы лёс СДС пасьля парламанцкіх выбараў, спадар Булахаў паведаміў, што блок створаны на час выбараў, а пасьля - страчвае юрыдычную сілу. Спадар Булахаў адхіліў магчымасьць зьліцьця партый у адну, спаслаўшыся на тое, што аб'яднаньне партый - доўгатэрміновы працэс, і фарсіраваць яго ня варта.

Лідар БСДГ Мікола Статкевіч паведаміў, што ад СДС вылучана кандыдатура экс-лідара БСДГ Алега Трусава. На пытаньне, ці вядуцца кансультацыі з іншымі дэмакратычна настроенымі партыямі з прычыны вылучэньня кандыдатаў, спадар Статкевіч адказаў станоўча.

На думку спадара Булахава, да абраньня новага складу Вярхоўнага Савету павінен працаваць стары. З гэтым пагадзіўся спадар Статкевіч. Лідар ПНЗ Леанід Сечка, які падпісаў зварот васьмі новаабраных дэпутатаў (дзе было патрабаваньне перадаць паўнамоцтвы новаму парламанту), паведаміў, што ён лічыць, што «нягледзячы на рашэньне Канстытуцыйнага суда, які прызнаў правамоцнасьць рашэньняў парламанту, толькі пры ўзаемадзеяньні дэпутатаў двух парламантаў можна знайсьці паразуменьне». Аднак, меркаваньне спадара Сечкі зьяўляецца прыватным і не адлюстроўвае меркаваньня большасьці ПНЗ. Тым ня менш, спадар Сечка заявіў, што ён не намераны спыняць выступленьні з ініцыятывамі і ў хуткім часе павінен зьявіцца зварот да новаабраных дэпутатаў з просьбай сабрацца і выказаць сваю думку з нагоды зьніжэньня планкі яўкі выбаршчыкаў з 50 да 25 працэнтаў.

Інфармацыю аб тым, што ПНС плануе выступіць з ініцыятывай пераносу даты парламанцкіх выбараў на Беларусі, спадар Сечка пракаментаваў: «Няхай гэтая інфармацыя застанецца на сумленьні тых, хто яе распаўсюдзіў».

## ДЗЬМІТРЫ БУЛАХАЎ ЛІЧЫЦЬ, ШТО ПЛЕНАРНАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ ПАРЛАМАНТУ ЗЬБІРАЦЬ НЯМА ПАТРЭБЫ

**Каментуючы сітуацыю з легітымнасьцю парламанту, Старшыня парламанцкай камісіі па заканадаўству Дзьмітры Булахаў заявіў: «Рашэньне Канстытуцыйнага суда, які прызнае правамоцнасьць прынятых парламантам рашэньняў, канчатковае і абскарджаньню не падлягае. Прэзідэнт можа выказваць розныя думкі, але гэтыя думкі маюць значэньне ня большае, чым думкі шэраговага грамадзяніна. Ёсьць законы, ёсьць Канстытуцыя і перад імі ўсе роўныя, у тым ліку і прэзідэнт».**

Адказваючы на пытаньне, ці зьбярэцца парламант на чарговае пленарнае паседжаньне, спадар Булахаў адказаў: «Сесія наўрад ці будзе скліканая, таму што ў якасьці ўмовы скліканьня дэпутатаў мы выставілі цалкам абгрунтаванае патрабаваньне да выканаўчай улады: зрабіць справаздачу аб бюджэце. Да таго часу, пакуль не прадстаўлены ў ВС законапраекты, няма сэнсу зьбірацца. Тым больш, што ўсе законапраекты, якія датычаць эканомікі, прэзідэнт адклікаў».

**СІМ**



## АМЕРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ РЫХТУЮЦЬ АКЦЫЮ ПРАТЭСТУ

**13 кастрычніка Кааліцыя ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Нью-Джэрсі (ЗША), распаўсюдзіла зварот да прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў Амерыцы. У ім зьмешчаны заклік да правядзеньня дэманстрацыі пратэсту ля будынка ААН у Нью-Ерку 22 кастрычніка, калі плануецца выступленьне А.Лукашэнкі на юбілейнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.**

У звароце гаворыцца: «15 месяцаў прэзідэнцтва Лукашэнкі - гэта час рэакцыі прарасейска-камуністычных і імперскіх сілаў на Беларусі, папіраньне прынцыпаў дэмакратыі і правоў чалавека. Зьбітыя фізічна парламентарыі, забароненыя Свабодныя прафсаюзы, зачыняюцца незалежныя выдавецтвы, зьліквідаваная беларуская нацыянальная сімволіка».

Кааліцыя заклікае выкарыстаць прыезд А.Лукашэнкі ў Нью-Йорк, каб устаць на абарону правоў чалавека і праявіць салідарнасьць з дэмакратамі і патрыётамі Беларусі.

**СІМ**

## З ХВОРАЙ ГАЛАВЫ НА ЗДАРОВУЮ

У сродках масавай інфармацыі зьявіліся паведамленьні аб тым, што на паседжаньні Прэзідыуму Вярхоўнага Савету Беларусі была зроблена заява першага намесьніка Генеральнага пракурора Уладзіміра Кандрацьева адносна дэпутатаў цяперашняга парламанту. «Хутка Вас усіх пасадзяць», - заявіў спадар Кандрацьеў. Падобнае выказваньне да дэпутатаў дэмакратычнай Апазіцыі не зьявілася нечаканасьцю. Відавочны спробы ўладаў зваліць на лідараў БНФ ды іншых апазіцыйных партый віну за правалы ў эканоміцы, абвінаваціць Народны Фронт у дэстабілізацыі сітуацыі і іншым, да чаго БНФ не мае ніякіх адносінаў. Сапраўдная прычына роста напругі - адсутнасьць рынкавых рэформ ды імкненьне ўладаў навязаць дыктатарскія парадкі.

Выклікаюць шкадаваньне і выказваньні прэзідэнта Лукашэнкі пра гатоўнасьць выкарыстаць сілу. Як вядома, сёлета ў красавіку група дэпутатаў БНФ была зьбіта проста ў зале Парламанту. Нядаўна, адзін з дэпутатаў апазіцыі быў незаконна затрыманы і некалькі дзён правёў пад арыштам. Мы патрабуем ад прэзідэнта спыніць практыку беспадстаўных абвінавачаньняў, пагрозі прамога сілавога ціску ў адносінах да сваіх палітычных апанентаў, якая не спрыяе фармаваньню грамадзкай супольнасьці, усталяваньню дэмакратыі, палітычнай стабільнасьці.

**Сяргей НАВУМЧЫК,**
**каардынатар парламанцкай апазіцыі, прэс-сакратар БНФ.**

